Бог, Беларусь, Воля!

# Голас Краю

№9-10, верасень–кастрычнік 2000 **Газэта беларускіх нацыяналістаў** Кошт свабодны

## 20 кастрычніка - Дзень заснаваньня арганізацыі "Край"

Шаноўныя сябры, пабрацімы!

Віншуем Вас са сьвятам. Два гады таму, 20 кастрычніка 1998г., паўстала арганізацыя "КРАЙ". Вынікі дзейнасьці, безумоўна, ёсьць. Але мы мусім глядзець у будучыню і думаць пра вялікае. Думаць пра тое, што чакае нашу Нацыю ў наступным тысячагодзьдзі. Мы перакананыя, што трэцяе тысячагодьдзе – тысячагодзьдзе Беларускай Нацыі, яе росквіту. Але воля ня прыйдзе сама. Яе трэба здабыць. У гэтым наша вялікая місія. І мы выканаем яе з Божай дапамогаю. Жадаем Вам і ўсім беларусам здароўя, моцнага духу і новых перамог.

**Галоўны камадзір арганізацыі "КРАЙ"**



## Рыцары свабоды

*стар.4*



## Краёўцы на варце

*стар.2*

## Нацыянальны Ордэн

### параўнальная характарыстыка партыі і Ордэна

*стар.9*

## Арганізацыі «Край» два гады

### храналёгія дзейнасьці арганізацыі

*стар.6*

## «Змагайся за пашырэньне сілы, славы, багацьця й прасторы Беларускай Дзяржавы»

# Краёўцы на варце

Ужо два гады на Беларусі дзейнічае арганізацыя "КРАЙ". За гэты час арганізацыя набыла пэўную вядомасьць у беларускім грамадзтве. Прыйшоў час падвесьці вынікі, прааналізаваць памылкі, абгрунтаваць перамогі. Цяпер гэта неабходна зрабіць, бо не спыняюцца спробы ачарніць у вачах беларускага грамадзтва нашыя ідэі і дзейнасьць, навесіць арганізацыі "ярлыкі", сфальсіфікаваць мэты. Мы ніколі не імкнуліся ўступаць у дыскусіі, як з ворагамі, гэтак і з тымі людзьмі і структурамі, якія ўваходзяць у "беларускую апазыцыю". Але абясцэньваць Ідэю Нацыі мы не дазволім нікому.



Узгадайце сытуацыю, якая склалася пасьля рэферэндуму . Шматтысячныя акцыі пратэсту 1996 і 1997 гг., калі здавалася, што перамога ўжо блізкая, жаданых вынікаў не прынесьлі. Беларусь засталася пад расейскай акупацыяй. Марыянеткавы рэжым Лукашэнкі зьнішчыў усе тыя station... 

Марыянеткавы рэжым Лукашэнкі зьнішчыў усе тыя станоўчыя здабыткі, дасягнутыя ў часы фармальнай незалежнасьці (1991-94 гг.). Генацыд адносна нашай Нацыі стаў відавочным. Кампанія па канчатковай дэнацыяналізацыі беларусаў дасягнула небывалых памераў. Апазыцыйныя беларускія арганізацыі не змаглі аказаць годны супраціў акупантам і іх мясцовым памагатым. Магчыма, некаторыя лідары апазыцыі і пакрыўдзяцца на нас, але мы расчараваліся ў безвыніковай дзейнасьці існуючых антылукашэнкаўскіх сілаў. У сваіх лідарах расчараваліся і сябры буйнейшага нацыянальнага палітычнага руху. Мы ня будзем больш гуртавацца вакол лідараў. Лідары – жывыя людзі. Яны могуць памыляцца і здраджваць. Таму нашая арганізацыя - гэта аб'яднаньне вакол Нацыянальнай Ідэі. Гэта не азначае, што барацьба можа весьціся без правадыроў, але іх мы ацэньваем па адной важнай прыкмеце – служаць яны Нацыянальнай Ідэі альбо не.

Як бы ні цяжка было, мы мусілі змагацца. Таму заснавалі спартова-патрыятычную Арганізацыю "КРАЙ".

Мы ня думаем, што адны вырашым задачу вызваленьня Беларускага Народу. Арганізацыя "КРАЙ" зьяўляецца вузкафункцыянальнай ваенізаванай арганізацыяй, і таму ня ставіць перад сабой непасрэдных палітычных задач. Публічную палітыку мы пакідаем палітыкам. "КРАЙ" не змагаецца за пасады ці мандаты. Мы абралі сабе адзін асноўны накірунак дзейнасьці, які не перакрыжоўваецца зь дзейнасьцю іншых беларускіх структур. Мы не разглядаем іх як канкурэнтаў, бо ніхто зь іх не прэтэндуе на выкананьне тых функцыяў, якія выконваем мы. А нашыя функцыі застаюцца нязьменнымі ад самага заснаваньня Арганізацыі.

Функцыя 1. Выхаваньне беларусаў праз правядзеньне ідэялягічных, фізычных, палітычных, палявых, спэцыяльных вышкалаў ды ўдзел у разнастайных нацыянальна-абарончых і прапагандовых акцыях. Мэтай гэтага накірунку ёсьць падрыхтоўка кадраў нацыянальна-вызвольнай рэвалюцыі, крышталізацыя людзей Ідэі і Чыну, якія былі б здатныя на самаахвярнасьць у імя Нацыі і Бацькаўшчыны.

Функцыя 2. Прапаганда

**«Мы змагаемся за Беларусь, за яе волю, за гонар і славу, за народ, за Незалежную Нацыянальную Дзяржаву»**

Нацыянальнай Ідэі, ідэялёгіі беларускага нацыяналізму, дзейнасьці арганізацыі "КРАЙ".

Функцыя 3. Нацыянальна-абарончае дзеяньне – гэта дапамога беларускай грамадзе ў сама-арганізацыі, адстойваньне нацыянальных і сацыяльных правоў беларусаў, абарона гонару Нацыі любымі даступнымі метадамі і сродкамі.

"КРАЙ" не хавае сваіх ідэй, мэтаў і заданьняў. Мы выхоўваем новага Чалавека. Якая карысьць ад зброі, калі няма людзей, якія здольныя ўзяць яе ў рукі? Няхай "камітэтчыкі" не хвалююцца, яны не дачакаюцца ад нас нейкага тэрарызму, бо перад намі стаіць Вялікая Мэта, і ад яе мы не адступім ніколі.

Мы, краёўцы, называем сябе беларускімі нацыяналістамі, а гэта значыць, што інтарэсы Нацыі для нас маюць абсалютны прыярытэт, іх абарона - наш сьвяты абавязак.

Мы працягваем традыцыі і імкнемся зрабіць свой унёсак у разьвіцьцё ідэялёгіі беларускага нацыяналізму. Выдадзеная "Абэцэда беларускага нацыяналізму"– гэта не догма, а нашая спроба асэнсаваць ідэйную спадчыну нашых папярэднікаў.

Праблема ў тым, што ідэялёгіі Нацыі на сёньняшні дзень у сфармуляваным выглядзе не існуе. Некаторыя "натхняльнікі патрыётаў-нацыяналістаў" лічаць, што зьяўляюцца людзьмі, якія распрацавалі ідэйную базу рэвалюцыйнага беларускага нацыяналізму, напісаўшы два артыкулы. Мы не такія самаўпэўненыя. Мы лічым, што асноўныя прынцыпы нашай ідэялёгіі закладзены К.Каліноўскім, В. Ластоўскім, В. Гадлеўскім. Былі, вядома, іншыя людзі, якія зрабілі свой унёсак. "КРАЙ" спрабуе дапамагчы фармаваньню тэорыі нацыяналізму. На жаль, акрамя нас, гэтым грунтоўна ніхто не займаецца.



Разбудова арганізацыі пачыналася непрыкметна. Гэта і зразумела. Раскрывацца раней часу ў нашай сытуацыі, калі структура малакалькасная і малавядомая, было небясьпечна. А мы ня можам ставіць пад пагрозу посьпех вялікай справы. Ад самага пачатку ўся актыўнасьць была скіравана на вышкальную працу. За час дзейнасьці мы правялі больш за сто разнастайных вышкалаў. Мы хочам, каб у арганізацыі засталіся найбольш адданыя і ідэйныя байцы. Часта даводзіцца назіраць выпадкі, калі людзі, што траплялі на нашыя вышкалы, ці нават чыталі нашую газэту "Голас Краю", называюць сябе сябрамі "КРАЮ". Нашыя вышкалы прайшлі каля тысячы чалавек, але зь іх засталася меншасьць. "КРАЙ" – гэта арганізацыя ордэнскага кшталту, а гэта значыць, што мы самі адбіраем людзей, якія зольныя працаваць у арганізацыі. Таму толькі лепшыя, толькі самыя ідэйныя, дысцыплінаваныя і мужныя могуць стаць краёўцамі і насіць форму арганізацыі.

За два гады арганізацыя "КРАЙ" зьдзейсьніла шэраг прапагандовых акцый. Выразны нацыянальна-абарончы характар акцыяў паставіў на наш бок усіх беларускіх патрыётаў.

За два гады дзейнасьці ўзрос аўтарытэт і пашырыліся ўплывы "КРАЮ" па ўсёй краіне, адбылося пашырэньне арганізацыйнай сеткі ва ўсіх рэгіёнах нашай Бацькаўшчыны. Арганізацыя вырасла і ўмацавалася.

Але, акрамя тых відавочных посьпехаў, якіх дасягнуў "КРАЙ", ёсьць і пэўныя праблемы, найбольшымі зь якіх ёсьць фінансавая і кадравая. У сувязі з гэтым сёньня стаіць пытаньне пошуку новых форм і метадаў дзейнасьці. Трэба ўзмацняць і замацоўваць існуючыя арганізацыйныя структуры, разбудоўваць новыя, сыстэматызаваць прапагандовую і вышкальную работу, актывізаваць нацыянальна-абарончую дзейнасьць. Усё гэта нам пад сілу. Двухгадовы досьвед дзейнасьці арганізацыі і ўнікальныя напрацоўкі нашых папярэднікаў даюць упэўненасьць у Перамозе і Божай дапамозе ў нашай высакароднай справе.

Жыве Беларусь! Жыве вечна!

**Сотник "Млын"**

**«Час барацьбы, які прыйшоў сёньня, прымушае кожнага з нас зьвяраць свае справы з трыма нямеркнучымі арыенцірамі: Бог! Беларусь! Воля!»**

# Рыцары свабоды

На палянцы ля цёмнага лесу зьяўляюцца людзі. Начная цішыня разрываецца кароткімі, як стрэл, камандамі. У цемры мільгацяць засяроджаныя твары маладых хлапцоў і дзяўчат. Многія зь іх трымаюць нешта ў руках. Чатыры дзесяткі людзей у аднастроях хутка будуюць калёну. Натоўп вышыхтоўваецца ў стройнае карэ. Наперадзе калёны ўздымаюцца два нацыянальныя сьцягі. Ачольвае калёну сьцяг і штандар арганізацыі "КРАЙ". Калёна пачала рух. Хваляваньне нарастае з набліжэньнем да месца, дзе нашыя продкі 8 верасьня 1514 года абаранілі незалежнасьць беларускай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага. Мы ўжо на слаўным Крапівенскім полі. Калёна спыняецца на прыгорку. Запальваюцца паходні і зноў пачынаецца рух наперад. Гэта ідуць беларусы, каб аднавіць славу продкаў, якія змагаліся і перамагалі тут. Якія змагаліся, каб жыла Нацыя. Гэта ідуць краёўцы. Ідуць, каб адстаяць гонар Беларускай Нацыі, каб сьцьвердзіць яе права на жыцьцё і годнае месца пад сонцам. Гэта ідуць гаспадары краю і абаронцы Беларускага Народу.

Ля крыжа, усталяванага ў гонар перамогі беларускага духу і беларускай зброі, шыхт спыняецца, каб ушанаваць памяць продкаў, каб уславіць іхнія перамогі. Кароткая натхняльная прамова кіраўніка прымушае больш глыбока асэнсаваць мэту нашага знаходжаньня на гэтым сьвятым месцы. У такія хвіліны ўсьведамляеш важнасьць той місіі, якую выконваем мы, беларускія нацыяналісты. Мы вяртаем да жыцьця слаўную эўрапейскую нацыю, прывіваем беларусам пачуцьцё гонару, натхняем Беларускі Народ на далейшыя перамогі.


Паказальны выступ арганізацыі "КРАЙ" пад час акцыі на Крапівенскім полі

Потым калёна спускаецца да сцэны, на якой выступаюць барды. Арганізатары даюць слова краёўцам. Адзін з камандзіраў зьвяртаецца са словам да людзей, што стаяць навокал. Затым група краёўцаў з шасьці чалавек адпрацоўвае прыёмы самаабароны супраць зброі, прыёмы барацьбы зь некалькімі праціўнікамі. Вось краёўцы ходзяць басанож па бітым шкле на вачах у зьдзіўленай публікі. Воклічы "Жыве Беларусь! Жыве вечна!" разносяцца па навакольлі. Адзін з хлопцаў скідае вопратку і кладзецца аголенай сьпіной на бітае шкло, пасьля чаго па ім па чарзе праходзяць яго пабрацімы.

Гэтак краёўцы паказалі свае фізычныя здольнасьці, каб беларусы бачылі, што ёсьць сёньня сіла, здольная здабыць незалежную беларускую дзяржаву. На Беларусі ёсьць мужчыны! На Беларусі ёсьць рыцары, вартыя славы сваіх продкаў. А значыць, Беларусь будзе жыць.

**Алесь Валковіч**

**«Кожны беларус павінен быць падрыхтаваным да выкананьня заданьняў ды абавязкаў, якія накладвае на яго факт прыналежнасьці да Беларускай Нацыі»**

# Місія арганізацыі «Край»

Нашая арганізацыя кіруецца ў дзейнасьці прынцыпамі хрысьціянскай рэлігіі ды ідэялёгіяй беларускага нацыяналізму. Хрысьціянства і беларускі нацыяналізм – гэта той падмурак, на які мы абапіраемся ў сьвятой барацьбе за нацыянальную праўду. Бог, Беларусь, Воля - нашыя нязьменныя арыенціры, якія складаюць аснову нашага сьветапогляду.

Кожны чалавек, а значыць і кожная Нацыя, мае ўласную, Богам дадзеную, місію. Мы нараджаемся, каб выканаць у жыцьці сваё прызначэньне. І ад гэтага абавязку нельга вызваліцца ці адмовіцца. Бо ўсе павінны несьці свой крыж.

Сёньня нашая Нацыя перажывае цяжкія часы. Народ разьяднаны, ён вымірае. Апатыя і нявер'е ахапілі ўсе пласты грамадзтва. Традыцыі забытыя, волі да жыцьця няма. Нацыянальная эліта, якая адзіная можа ачоліць змаганьне ўсяго народу, дэградавала.

У гэтым хаосе, калі трыумфуюць нашыя нацыянальныя прыгнятальнікі, мы ўзьнімаем зь небыцьця Штандар беларускага нацыяналізму. Мы – нацыяналісты, і таму адраджаем, абараняем і захоўваем усё нацыянальнае. Абарона грамадзкіх інтарэсаў – наш абавязак перад Нацыяй.

Дык у чым жа місія нашай арганізацыі? Мы перакананыя, што вызваленьне з-пад чужынскага ярма магчымае толькі пры ўмове згуртаваньня народных масаў вакол беларускай Нацыянальнай Ідэі. Мы сёньня пачалі нацыянальна-вызвольную барацьбу, у якой Нацыя мусіць выступаць як маналіт. Дзеля гэтага неабходна аднавіць веру ў Беларускую Ідэю, у нашую нацыянальную праўду. Таму місія "КРАЮ" – данесьці сьвятую Ідэю Нацыі да беларускіх людзей, данесьці ў тыя куткі, дзе пра яе ніхто нічога ня чуў. Мы перакананыя, што нашая барацьба паспрыяе абуджэньню Нацыі і натхніць яе на змаганьне за свае інтарэсы. Тады перамога будзе ўжо блізкай. Пасьля Нацыянальнай Рэвалюцыі нашая дзейнасьць ня скончыцца. Арганізацыя трансфармуецца ў грамадскую самаахову.

Беларуская Нацыя будзе жыць вечна, таму што цяпер ёсьць людзі, здольныя абараняць яе, ня гледзячы ні на што. Мы будзем служыць Ідэі Нацыі вечна. Гэта нашае прызначэньне, дадзенае Богам.

**Марта Ластоўская**

# Рэвалюцыя і свабода

Рэвалюцыя ў Югаславіі стала для многіх нечаканай. Як жа, рэвалюцыя ж не прадугледжана заканадаўствам. А што рабіць, калі чыноўнікі на чале зь Мілошавічам паставілі сябе па-над законамі? Калі палітычныя сродкі не спрацоўваюць, у ход ідуць непалітычныя. Калі злачынцы ва ўладзе не жадаюць слухаць голас свайго народу, то яны будуць слухаць голас зброі. Калі дыктатар не падпарадкоўваецца сваім жа законам, то і ўвесь народ мусіць рабіць тое самае. Гульня ў дурня скончаная, Мілошавіч прайграў. Югаславія нарэшце здабыла сваю свабоду. У гэтым ёсьць вялікая заслуга югаслаўскай апазыцыі, якая здолела арганізаваць акцыі пратэсту і непадпарадкаваньня. Апазыцыя здолела аб'яднаць народ, таму і перамагла. Міты мілошавічскай прапаганды былі разьвеяныя, штыкі зламаныя. Калі рэвалюцыя будзе мець працяг і зломіць ушчэнт усю сыстэму, то праз некалькі гадоў Югаславы забудуцца пра жахі вайны і дыктатуру.

У нас жа ўсё толькі пачынаецца. Наперадзе барацьба, перамога і вызваленьне.

**Сяржук Вашкевіч**

## Анонс

**Рускае нацыянальнае адзінства А.П.Баркашова скончыла сваё існаваньне.**

У наступных нумарах "Голасу Краю" чытайце сэрыю артыкулаў пра гэтую падзею.

**«Існаваньне дзяржавы толькі тады апраўдваецца гісторыяй, калі гэта дзяржава выконвае якое-колечы гістарычнае пасланьніцтва»** В.Ластоўскі





У вышкальным табары

# Арганізацыі

## храналогія дзейнасьці

Нам два гады. За гэты час арганізацыя "КРАЙ" зьдзейсьніла больш за дзесяць акцыяў. Найбольш вядомая зь іх – шэсьце з паходнямі ў Гародні **25 красавіка 1999 г.**, прымеркаванае да гадавіны Чарнобыльскай трагедыі. Нягледзячы на мірны характар дэманстрацыі, карныя "органы" пайшлі на правакацыю і атакавалі калёну. Краёўцы мужна абараняліся. Хаця на баку "органаў", акрамя дубінак і газу, была колькасная перавага (іх было амаль у 10 разоў больш), краёўцы атрымалі маральную перамогу. Перамогу ў той дзень атрымала ўся Беларуская Нацыя, таму што не адбылося падпісаньне чарговай саюзнай дамовы паміж Беларусьсю і Расеяй. Акцыя засьведчыла, што зьявілася новая беларуская сіла, бескампрамісная і дысцыплінаваная. Сам факт нараджэньня на на Беларусі баяздольнай арганізацыі разьбівае міт аб "памяркоўнасьці" беларусаў.

З таго часу ўсе беларускія нацыяналісты адзначаюць 25 красавіка як Дзень барацьбы.

**7-8 верасьня 1999г.** краёўцы







**«Прыгажосьць і радасьць жыцьця ты павінен бачыць у няспынным імкненьні да вяршыняў духу й справы»**


Ля крыжа на Крапівенскім полі



# «Край» два гады арганізацыі «Край»

сьвяткавалі Аршанскую перамогу на слаўным Крапівенскім полі. Байцы "КРАЮ" прадэманстравалі свае фізычныя здольнасьці перад людзьмі, што прыйшлі на сьвята Беларускай вайсковай славы. У той дзень арганізацыя "КРАЙ" сачыла за парадкам і ахоўвала мерапрыемства.

**17 кастрычніка 1999г.** "КРАЙ" прымаў актыўны ўдзел у Маршы Свабоды. Краёўцы ішлі ў першых шыхтах. Трымаліся да апошняга. Хаця народ аказаўся непадрыхтаваны да рашучых дзеяньняў і перамогі, той дзень многія называюць рэвалюцыяй семнаццатага. Нашая моладзь паказала, што такое супраціў.

**27 лістапада 1999 г.** адбылося шэсьце ў гонар Слуцкіх паўстанцаў у мястэчку Вызьне. У акцыі прымала ўдзел 60 чалавек. На цэнтральнай плошчы мястэчка, дзе ў 1920 г. фармаваўся адзін з палкоў беларускага войска, быў







**«Вернасьць ды самаахвярнасьць няхай будуць табе найвышэйшым запаветам»**

усталяваны і асьвечаны крыж, сьвятар правёў службу па тых, хто пайшоў паміраць, каб жыла Бацькаўшчына.

**9 верасьня 2000г.** "КРАЙ" зноў зьявіўся на Крапівенскім полі. Пасьля традыцыйнага паказальнага выступу калёна сыходзіць у ноч.

Былі і іншыя акцыі, прапагандовыя рэйды.

Выхаваньне Новага чалавека – стваральніка будучыні, – адна з функцый арганізацыі "КРАЙ". Арганізацыя ўдзяляе значную ўвагу школеньню сваіх чальцоў. З моманту заснаваньня арганізацыі адбылося больш за сто вышкалаў рознага ўзроўню складанасьці, на іх нашыя сябры і прыхільнікі атрымалі новыя веды, удасканалілі фізычную падрыхтоўку, загартаваліся маральна. Праз вышкалы прайшло больш за тысячу чалавек. Гэтыя людзі – залаты фонд Нацыі. Многія зь іх уключыліся ў сыстэматычную дзейнасьць на карысьць Бацькаўшчыны. Ім наканавана праявіць сябе ў барацьбе Беларускай Нацыі за месца пад сонцам, за годнае жыцьцё.

Арганізацыя "КРАЙ" выявіла сябе і ў выдавецкай дзейнасьці.



Толькі лепшыя, толькі самыя ідэйныя, дысцыплінаваныя і мужныя могуць стаць краёўцамі

Ужо пабачылі сьвет дзесяць нумароў газэты "Голас Краю". Выдадзены брашуры: " Абэцэда беларускага нацыяналізму", "Беларуская партызанка", "Чаму беларус абавязаны быць нацыяналістам?", "Беларускім героям – народную памяць", "Патрэба нацыянальнай ідэі", "Нацыяналізм у сьвеце" (ч.1), "Кожнае пакаленьне беларусаў абірала свабоду" і іншыя выданьні. Мы перакананыя, што прапагандовая функцыя – адна з найважнейшых. Калі мы заваюем душы беларусаў, калі народ нам паверыць, то нам застанецца узьняць Нацыю і здабыць перамогу.

Прыйдзе той дзень, калі мы зьдзейсьнім мару многіх пакаленьняў беларусаў аб волі і ўсталюем нацыянальную справядлівасьць на ўсіх беларускіх землях. Ён абавязкова прыйдзе! Мы мусім набліжаць яго ўсімі сіламі. Тады Беларусь стане вольнай і шчасьлівай.

**Сяржук Вашкевіч**







# «Вер у будучыню. Тады ты станеш пераможцам!»

# Нацыянальны Ордэн

Дзейнасьць шматлікіх беларускіх арганізацыяў за апошнія гады аказалася малапасьпяховай. Праблема апазыцыйных партый у тым, што яны спадзяюцца на літасьць рэжыму, на тое, што Лукашэнка саступіць уладу дабраахвотна. Часта даводзіцца чуць: "Вось прыйдзе вясна і рэжыму канец", ці "Пасьля 21 ліпеня ён ніхто", "хутка рухне эканоміка, і працоўныя выйдуць на вуліцы", "Правядзем пераможныя парлямэнцкія і прэзідэнцкія выбары" і г.д. Трэба разумець сутнасьць гэтага рэжыму і тых, хто за ім стаіць. Не дзеля таго яны засылалі сюды сваю агентуру і апаноўвалі ўладныя кабінэты, каб потым лёгка саступіць. Гэты прамаскоўскі рэжым будзе існаваць да той пары, пакуль існуе такая сістэма ўлады і яе людзі. Зьяднаць усіх людзей добрай волі і мабілізаваць усе народныя сілы на здабыцьцё ўласнай Нацыянальнай дзяржавы можа толькі Нацыянальны Ордэн.

## Параўнальная характарыстыка партыі і Ордэна

Разгледзім адрозьненьні паміж Ордэнам і партыяй.

Партыя дзейнічае ў палітыка-прававым полі, навязаным ёй дзяржавай (уласнай ці акупацыйнай). Ордэн сам творыць і выбірае найбольш аптымальныя формы дзейнасьці.

Партыя лічыць асноўным крытэрам свае ўласныя інтарэсы (добра тое, што карысна для партыі). Ордэн мае асноўным крытэрам дабро Нацыі (а ня ўласнае ці нават дабро цяперашняга пакаленьня).

Партыя складаецца зь людзей аднаго інтарэсу (улада), але рознага сьветапогляду. Ордэн гуртуе людзей адной Ідэі, аднолькавага сьветапогляду.

Партыі ўласьцівая канкурэнцыя ў барацьбе за пасады, бо чым вышэйшая партыйная пасада, тым большы шанец атрымаць вышэйшую дзяржаўную пасаду, ці мандат. Ордэн ня ведае такой канкурэнцыі, бо тут адсутнічае кан'юнктура, а кожны сябра арганізацыі зацікаўлены ў прыросьце аўтарытэту кожнага пабраціма, бо так вырастае аўтарытэт арганізацыі, сіла ейнага ўплыву, а таксама – посьпех справы.

Партыя зарыентавана на праблемы жыцьця сёньняшняга пакаленьня, чые інтарэсы выкарыстоўваюць дзеля дасягненьня сваёй мэты – улады. Ордэн зарыентаваны найперш на праблемы існаваньня Беларускай Нацыі ў часе, улічваючы інтарэсы ўсіх былых, цяперашніх і будучых пакаленьняў беларусаў.

Партыя пераконвае сваіх сяброў і супольнасьць у тым, што ключ да вырашэньня ўсіх праблем народу – гэта дапамагчы ёй прыйсьці да ўлады. Ордэн лічыць ключавым вырашэньне праблемы дзяржаўнасьці беларускай Нацыі, стварэньне Незалежнай Нацыянальнай Дзяржавы.

Партыі пазьбягаюць згуртаваньня зь іншымі арганізацыямі і рухамі, шукаючы або залежных, або хаўрусьнікаў на кароткі час. Ордэн пастаянна шукае і аб'ядноўвае аднадумцаў у барацьбе за рэалізацыю Нацыянальнай Ідэі.

Партыя прэтэндуе на месцы ў кіроўных кабінэтах і змагаецца з канкурэнтамі. Ордэн – за зьмену напрамкаў і сутнасьці дзейнасьці людзей улады, за збліжэньне іх палітыкі з нацыянальнай Ідэяй ды нацыянальнымі інтарэсамі. Толькі непалітычная арганізацыя можа выступаць кансалідуючым чыньнікам у беларускім грамадзтве: яна ёсьць апірышчам для носьбітаў улады, што праводзяць дзяржаўніцкую, а не вузкаэгаістычную ці калябаранцкую палітыку.

Апазыцыйныя партыі ставяцца да імпэрскай калёны не як да ворагаў Беларусі, а як да сваіх палітычных супернікаў. Ордэн лічыць імпэрыялізм, расейскі вялікадзяржаўны шавінізм, гэтаксама як і касмапалітызм, варожымі, беларускай Нацыі ідэялёгіямі.

Партыя імкнецца зьмяніць людзей улады і дзейнічае паводле прынцыпу: "хай горшы, але наш". Ордэн прытрымліваецца толькі прынцыпу эфэктыўнага кіраваньня на карысьць Бацькаўшчыне.

Партыя лічыць людзей улады канкурэнтамі, якіх трэба скампраметаваць, зьнішчыць, каб заняць іхнае месца. Ордэн лічыць тых, хто набыў практычны досьвед дзяржаўніцкай дзейнасьці, залатым фондам Нацыі, які абавязкова трэба берагчы і выкарыстоўваць у далейшай палітычнай практыцы.

Партыя разглядае цяперашнюю дзяржаву Беларусь, як самастойнае дзяржаўна-праўнае ўтварэньне, заклікае гэтую дзяржаву ўзмацняць, разбудоўваць, удасканальваць парляманцкімі мэтадамі. Ордэн трактуе сучасную дзяржаву, як каляніяльнае ўтварэньне. Адначасова заклікае да зьнішчэньня каляніяльнага ладу з далейшай абаронай нацыянальнай дзяржавы ад замахаў любых ворагаў.

Партыя заяўляе, што дастаткова ейнай перамогі для якаснай зьмены жыцьця народу да лепшага. Ордэн перакананы, што зараз ніводная партыя ня здолее зьмяніць антынародную сутнасьць каляніяльнай палітыкі. Мусіць быць утвораны іншы надпартыйны цэнтар дзеля кансалідацыі ўсіх нацыянальна-дзяржаўніцкіх сілаў.

Партыі разглядаюць моладзь, як сродак для здабываньня сабе галасоў на выбарах, таму і ствараюць нейкія маладзёвыя рэзэрвацыі (Малады Фронт, Маладая Грамада, Грамадзянскі Форум). Ордэн - гэта авангард моладзі, якая ажыцьцяўляе Беларускую Нацыянальную Ідэю.

Партыя выкарыстоўвае папулізм дзеля прыходу да ўлады, але ня мае намеру рэалізоўваць свае абяцаньні. Ордэн рэальна змагаецца за Беларускую Дзяржаву – носьбіта беларускай Нацыянальнай Ідэі ды абаронцу нацыянальных інтарэсаў. Без дасягненьня гэтай ключавой мэты ўсе абяцанкі палітыкаў ня маюць сэнсу.

Партыя дзеля дасягненьня сваёй мэты мусіць дзейнічаць галосна, публічна, мусіць заяўляць пра сваю пазыцыю да тых ці іншых грамадзкіх зьяваў (часта гэта застаецца толькі словамі). Ордэн без агалоскі дасягае сваёй Мэты (праз іншыя структуры ці асобных людзей).

**Мікола Мельнік**

**«Нацыянальная эліта – гэта група людзей, моцных воляю, разумных, ахвярных, гераічных, непахісных, пасьлядоўных у сваіх ідэях і справах»**

# Дзеці катаў - золата імпэрыі

Аналіз сытуацыі па адраджэньні нацыянальнага духу Беларусі за апошнія дзесяць гадоў дазваляе вызначыць прычыны, па якіх нацыянальныя сілы пакуль ня могуць прыйсьці да ўлады.

Першая і самая галоўная прычына – гэта генэтычная расейская зайздросьлівасьць. Для таго, каб патлумачыць гэтую думку, прапаную зьвярнуцца да гістарычных фактаў. Хаця Кацярына II, расейская імпэратрыца, была немкай, але яна добра засвоіла расейскія парадкі. Кацярына вучылася на справах Івана IV (Жахлівага). А Іван Жахлівы люта зайздросьціў тым, хто добры і заможны. Ён страшэнна баяўся Вялкіга Княства Літоўскага. Таму што гэты край, які цяпер называецца Беларусcю, быў багаты ня толькі скарбамі, але і адукаванымі людзьмі, шчырымі патрыётамі сваёй Айчыны.

І зьявіўся Ўказ Кацярыны аб зьнішчэньні Вялікага Княства да такой ступені, каб і сьледу на зямлі не засталося. Каб не засталося і ўспаміну аб ягонай славе. Сёньня гэта называецца "зрабіць зачыстку". Кацярына разумела, дзе знаходзяцца карані Народу: у мове, у гістарычнай памяці. Калі пазбавіць чалавека сваёй мовы і памяці, то ён зробіцца паслухмяным і ўдзячным рабом, а Масковіі патрэбны паслухмяны люд, які будзе верна служыць імпэрыі.

Самадзяржаўе прысвойвала дзе гвалтам, а дзе хітрыкамі усё лепшае, што на той час было ў Эўропе. Расейцы рабавалі беларускія цэрквы і манастыры, гарады і замкі, палілі іх разам з жыхарамі.

З таго часу Масква на манер Арды выпрацавала звычку забіраць у палон самых таленавітых людзей, якія потым будавалі Масковію. Масква рассылала сваіх начальнікаў па ускраінах імпэрыі, і са страшнай жорсткасьцю насаджала свае барбарскія звычаі і норавы. І мову. І сваё блядавер'е.

Колькі пакладзена жыцьцяў на алтар свабоды ў ВКЛ? Расейцамі, немцамі, палякамі. Успомніць страшна. І пры саветах гэта замоўчвалася, і цяпер лукашэнкаўская школа нічога не кажа пра генацыд беларускага народу расейцамі. А пакаленьні растуць, не ведаючы нічога пра мінуўшчыну. Яны і вырастаюць маўклівымі і паслухмянымі, як іхныя бацькі. Рабы, што залежаць ад волі аднаго чалавека, імператара-Бога. Яны вераць толькі яму, спадзяюцца толькі на яго.

> **Паспрабуй сёньня спаказць што-небудзь па-беларуску супраць яго. На цябе абрынецца шквал эмоцыяў. Але сказаць трэба. У імя праўды і справядлівасьці. Людзі павінны ведаць, каму яны пакланяюцца**

Пад саветамі мы цярпелі русіфікацыю (правільней будзе сказаць маскалізацыю) з дапамогай саўковага мысленьня. Гэтым сродкам з падачы Ўрала Рамдракавіча Латыпава сёньня карыстаецца лукашэнкаўская каляніяльная адміністрацыя. Удала расставіўшы кадры, расейскія спэцслужбы праводзяць на Беларусі сваю палітыку, пільнуючыся запаветаў Мураўёва-Вешальніка, які патапіў у крыві паўстаньне Кастуся Каліноўскага.

Сёньня мы назіраем пераемнасьць той палітыкі. Нездарма, як толькі ў Расеі зьмяняецца прэм'ер-міністр, то перш за ўсё наведвае наш край. Правярае кадры. Тут яны пасадзілі на прастол хворага чалавека, якім можна лёгка маніпуляваць. А цяпер "дарагія масквічы" пазбаўляюць нас нашай будучыні. Прышлыя начальнікі вучаць нас: "Ня трэба думаць, а трэба болей працаваць". Яны спрабуюць выгадаваць з беларусаў бяздумных істот, якія будуць старанна выконваць загады свайго фюрэра. Цяжка, але трэба прызнаць, што лукашысты дасягнулі значных посьпехаў: яны здолелі выхаваць генэрацыю бяздумных і безыдэйных служкаў. Паспрабуй сёньня сказаць штонебудзь па-беларуску супраць яго. На цябе абрынецца шквал эмоцыяў. Але сказаць трэба. У імя праўды і справядлівасьці. Людзі павінны ведаць, каму яны пакланяюцца.

Цэны растуць, заробкі і пенсіі ўсё менш і менш, а паслухмяны раб будзе маўчаць і памрэ моўчкі. А самае жахлівае, што дзеці будуць гінуць у Афганістане або ў Ічкерыі. Маці з бацькам паплачуць па сыне і зноўку будуць бараніць уладу і свайго гаспадара з пенай на роце.

І вось трэцяя прычына. Справа ў тым, што сёньня ва ўладзе знаходзяцца тыя ж каты, а дакладней іх дзеці. А чаму? Таму, што каты - гэта золата імпэрыі, таму і жывуць яны на прывілеяваным становішчы. У іх – кватэры і дамы. Ды не абы-якія. І жывуць яны не на заробак. І карыстаюцца ўсімі ільготамі: газ, электрычнасьць, ацяпленьне, тэлефон, транспарт, замежныя камандыроўкі, адпачынак у цёплых краінах. Дзеці пры універсітэтах. У свой час панабіралі ільготных крэдытаў. І цяпер бяруць. А простаму беларусу… Цяпер гэтыя людзі пры ўладзе і грошах. Дзеці таксама не бядуюць. Вучацца і падвучваюцца ў сваіх дзядуляў-бабуляў, як трымаць уладу і лавіць павевы ветру. Дык вось: дзеткі гэткія ж жорсткія, як тыя апрычнікі Івана Жахлівага, справа якіх жыве і сёньня.

Хутка і з імпэтам яны ўзялі на ўзбраеньне "вынаходніцтва" Гарбачова – АМАП. Туды набіраюць сапраўдных зомбі. А хто такі зомбі? Гэта істота, якая не разумее, дзе дабро - дзе зло. Яна будзе нішчыць і

**«Мы павінны навязаць ізноў парваную ніць нашых гістарычных традыцый і на іх будаваць нашыя гістарычныя заданьні»** В.Ластоўскі

пляжыць тое, што яму загадаюць. Пераканаўся ў гэтым на прыкладзе падзей 17 кастрычніка (сумнавядомы "Марш Свабоды"), калі жанчына, ужо немаладая, пераконвала АМАПаўцаў не ісьці супраць свайго Народа. АМАПаўцы былі спакойныя, зь яснымі вачыма. І тут прагучала каманда "ФАС". Імгненна гэтыя вочы наліліся крывёю, і з усяго маху дубінкай гэты АМАПавец б'е жанчыну па твары. Ды так, што ў яе вочы ледзьве не выскачылі. Вось такую зброю ўзялі сабе дзеці катаў. "Разьдзяляй і валадар" – казалі рымляне. Якая дэмакратыя?! Прачніцеся!

Мы - народ, можам задушыць гэтых АМАПаўцаў, а тыя, хто стаяць за імі, застануцца ў баку. Яны ж вучоныя. Ведаюць, што сказаць і куды зьбегчы, калі што. Ну канешне ж, у Расею, да бальшавікоў-камуністаў, а мо і паклікаць сюды іхныя войскі. Каб баранілі браткоў-халуёў. І пачнецца новае, а па сутнасьці тое ж катаваньне Беларускага Народа, што і Суворaў рабіў на гэтай зямлі. Але школьныя падручнікі маўчаць аб гэтым. Колькі можна па-рабску маўчаць? Колькі цярпець зьдзекі над сабой? Беларусь, прачніся!

**Анатоль Крыўцоў**

# Сымбаль рэжыму
## зьявіўся ў Берасьці

Вось, нарэшце дачакаліся, – далася й Берасьцю ў знакі эпоха лукашызму. Гэтым летам ліхаманкавымі тэмпамі ў горадзе завяршылася будаўніцтва сакральнага сымболю ўвасабленьня "бацькі", чарговага г.зв. "лядовага палацу". Падобна паганскім капішчам, гэныя збудаваньні, на думку жрацоў "бацькавай" рэлігіі, павінныя стаць засяроджаньнем чаканьняў і мараў беларусаў, дэманстраваць сабою нябачную прысутнасьць "чалавекабога" і ягоны неўтаймаваны клопат аб патрэбах сьмяротных.

Кожная тыранічная ўлада рана ці позна вядзе свайго носьбіта да думкі, што ён і ёсьць боскі мэсыя для свайго народу, ці, на горшы выпадак, у нечым самы лепшы, самы выдатны... Так узьнікалі пірáміды, маўзалеі, незьлічоныя статуі розных Нэронаў, Ленінаў, Сталінаў запаланялі гарады ўва ўсе часы ды эпохі. Здавалася, што каменных сымболяў правадыроў ужо дастаткова, каб выклікаць містычныя пачуцьці ў гледачоў, схіліць да пакланеньня альбо выклікаць жах. Прычыны такіх зьяваў шукаюць у вобласьці падсьвядомага, і звычайна даглядаюць як псыхічную хваробу, што пачынаецца шчэ ў дзяцінстве. У нашым беларускім варыянце можна ўявіць сабе, як у далёкія часы ў глухім кутку Магілёўшчыны зімовай парою вясковыя дзеці адмаўляліся гуляць у хакей з цыганаватым байстручком Сашам. "Ладна, ладна, – думаў Саша, самотна ганяючы шайбу, – падаждзіце. Вось прыдзець урэмя, выpасту, буду самым лучшым хакяістам у міры, буду гуляць у дварцах, а вы усе будзеце шчаміцца, штоб са мною паіграцца!". Як бачым, шчэмяцца, ды яшчэ як!

Будаўніцтва палацу каштавала гораду мільярдных даўгоў, нявыплачаных заробкаў, чарговай стрыжкі куцай прадпрымальніцкай аўчыны. Таму радасьць пэўных берасьцейцаў з нагоды адкрыцьця "чудесного архитектурного сооружения" выглядае блізкай радасьці канібалаў. Дарма, што лука любіць пацяшаць сябе падобнымі забаўкамі, дык робіць ён гэта шчэ й за наш з вамі кошт!

**Жыгімонт Фройд**

## Выдавецтва "Голас Краю"
# запрашае да супрацоўніцтва аўтараў, якія пішуць на тэмы:

*Гісторыя нацыянальна-вызвольнай барацьбы беларусаў,*
*Праблемы беларускага нацыяналізму,*
*Гісторыя беларускай вайсковай справы,*
*Грамадзка-палітычнае жыцьцё ў сучаснай Беларусі.*

**«Адзіным і сталым гарантам жыцьця ды рознабаковага разьвіцьця Народу і Нацыі ёсьць сувэрэнная, ні ад кога не залежная дзяржава»**

## Конкурс

### Шаноўныя чытачы!

Працягваецца конкурс беларускіх газэт, мэта якога распаўсюдзіць інфармацыю пра беларускія выданьні.

Заклікаем далучыцца да праекту усе беларускія выданьні. Дасылайце на адрас рэдакцыі "Голасу Краю" сваю прадукцыю. Распаўсюджвайце інфармацыю пра конкурс.

Шаноўныя чытачы, запрашаем вас прыняць актыўны ўдзел у конкурсе. Калі вы жадаеце, каб ваша улюбёная газэта перамагла, то дасылайце ў рэдакцыю "Голасу Краю" свае лісты з пазнакаю "на конкурс".

Па выніках конкурсу будзе складзены адмысловы рэйтынг папулярнасьці беларускіх газэт.

**Рэдакцыя**

наша свабода

Наступная у конкурсе – газэта "Наша свабода"

Шукаем звесткі пра ўдзельнікаў антыбальшавіцкай партызанкі.
Зьвяртайцеся на адрас рэдакцыі:
**220037, г.Менск, а/с 49**
**e-mail: spa_kraj@hotmail.com**
**пэйджар: 249-00-00 аб.7315**

RR
РАДЫЁ РАЦЫЯ
21:00-23:00 (беларускі час)
КХ 49м 6165 кГц
7:00-9:00 (беларускі час)
КХ 49м 6035 кГц



РАДЫЁ СВАБОДА
BELARUS SERVICE RFE/RL

## Шаноўныя чытачы!

Каб атрымаць **"Голас Краю"**, дастаткова даслаць ліст з замовай на адрас рэдакцыі (220037, г.Менск, а/с 49). У замове трэба пазначыць імя, прозьвішча і адрас.

**"Голас Краю"** можна набыць у сядзібе Таварыства беларускай мовы па адрасе вул.Румянцава 13.

Замаўляйце і чытайце **"Голас Краю"** – газэту беларускіх нацыяналістаў.

Рэдакцыя

**Вы жадаеце далучыцца да дзейнасьці арганізацыі "КРАЙ"?**
Паведамце вашыя адрас, імя і прозьвішча на пэйджар.
№249-00-00
для абанента 7315

**Запрашаем да супрацоўніцтва журналістаў і тэхнічных адмыслоўцаў.**
**Рэдакцыя**

**Вы жадаеце весьці прапаганду ідэяў беларускага нацыяналізму?**
Паведамце вашыя адрас, імя і прозьвішча на пэйджар.
№249-00-00
для абанента 7315

Вы можаце набыць брашуру **"Нацыяналізм у сьвеце"** (ч.1) зьвярнуўшыся на адрас:
220037, г.Менск, а/с 49
e-mail: spa_kraj@hotmail.com
пэйджар №249-00-00
для абанента 7315

Вялікі дзякуй за дапамогу ў выданьні гэтага нумару спадару П.

Газэта "Голас краю" заснавана спартова-патрыятычнай арганізацыяй «Край». Год заснаваньня 1999.
Рэдактар Яўген Садоўскі

Рэдакцыя не заўсёды падзяляе меркаваньні аўтараў. Передрук матэрыялаў толькі з дазволу рэдакцыі газэты

Адрас для ліставаньня:
**220037, г.Менск, а/с 49**
**пэйджар 249-00-00 аб.7315**
**e-mail: spa_kraj@hotmail.com**